Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

5 — 11 ЛЮТАГА 1999 ГОДА
ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ
ЦАНА 15000 РУБЛЁЎ
№6 (198)

АДНА ЗЯМЛЯ

МАЛАДЗЕЧНА

## У вёсцы дзевяць сіфілітыкаў

У Хоўхлаве выяўлена 9 хворых на сіфіліс.

Па папярэдніх дадзеных, крыніцай інфекцыі сталі дзве мясцовыя жыхаркі. Вакол – таксама вёскі, таму можна меркаваць, што колькасць інфіцыраваных значна ўзрасце. *Аддзел інфармацыі.*

ВІЛЕЙКА

## Новы магазін

Адкрытае акцыянернае таварыства "Белтрыкатажгандаль" па вуліцы Чырвонаармейскай адкрыла свой фірменны магазін. У асартыменце вырабы айчынных фабрык: з Пінска, Оршы, Баранавічаў, Мінска. *Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

АШМЯНЫ

## Сваё масла смачнейшае

На Ашмянскім сырзаводзе запушчаны новы цэх, дзе будуць вырабляць масла, недахоп якога адчуваецца не толькі ў тамтэйшых крамах.

Магутнасці цэху дазваляюць вырабляць за адну змену каля 8 тон прадукту. У гандаль адпраўлена амаль 30 тон масла, аднак выйсці на закладзеную праектную магутнасць цэху пакуль не дазваляе адсутнасць сыравіны. *Мар"ян ВЯНГРОЎСКІ.*

СМАРГОНЬ–АШМЯНЫ–АСТРАВЕЦ

## Літва жыць не замінае

Урад Літвы прыняў рашэнне, дзе выказваўся намер зрабіць больш жорсткімі мытныя патрабаванні для пасажыраў, якія накіроўваліся ў Літву з Беларусі. Меркавалася, у прыватнасці, з 1 лютага ўвесці наступныя абмежаванні: кожны пасажыр мог увезці паўлітра алкагольных напіткаў, у баку легкавога аўтамабіля магло быць не больш за 30 літраў, а ў грузавога – не больш за 100 літраў паліва. Акрамя гэтага, кожны з пасажыраў на адзін дзень знаходжання ў Літве павінен быў мець 100 літаў.

Гэтыя абмежаванні маглі б істотна паўплываць на бізнес мясцовых жыхароў - штодня многія з тых, хто ездзіць у Літву, маюць неблагія надбаўкі да пенсій і заробткаў. Але на мытных пастах Літвы на момант падпісання гэтага нумара азначаныя вышэй абмежаванні літоўскі бок пакуль не ўвёў. *Аддзел інф.*

ВІЛЕЙКА

## Не позна зрабіць добрую справу

Гарадская ўлада напрыканцы свайго існавання (маем на ўвазе аб'яднанне выканаўчых структур, пасля якога паняцці «горад–раён» зблізіліся) пакінула пра сябе добрую памяць у гараджанаў. Для вучэбна–курсавога камбіната гарвыканком выдзеліў "Жыгулі", а гімназія атрымала 6 камп'ютэраў.

*Аддзел інфармацыі.*

ВІЛЕЙКА – МАЛАДЗЕЧНА

## Халадзільнікі нарасхват

Попыт на халадзільнікі і маразільнікі не змяншаецца. Ля магазіна па вуліцы Савецкай, 10 людзі складаюць спісы на гэтую несезонную прадукцыю. Большасць пакупнікоў прыходзіць не з грашыма, а з кампенсацыйнымі чэкамі. Менавіта чэкамі (іх немагчыма абмяняць на наяўныя грошы, а трэба нешта купляць) улада кампенсуе ўклады пенсіянерам.

У Маладзечне ў магазіне "Белхол" – ажыятаж, як і ў суседзяў. Шасцікамерныя маразільнікі з апошняй партыі каштавалі па 39 мільёнаў. *Алена ІРЫСАВА.*

МАЛАДЗЕЧНА

## ВІЧ-інфекцыя б"е па шыі

У мужчынскай зале цырульні па вуліцы Прытыцкага выкарыстоўваюць небяспечную брытву. Цырульнікі гавораць, што брытва толькі "для сваіх кліентаў". Аднак у лік "сваіх" штодзень уваходзяць дзесяткі – ім упарта падгольваюць шыі, скроні.

Урач–нарколаг са Светлагорска - беларускай сталіцы СНІДу - **Уладзімір Кабанаў** па тэлефоне сказаў, што перадача інфекцыі праз цырульні ў Светлагорску мае месца. Чэргаў у тамтэйшыя цырульні няма, а манікюрныя кабінеты наогул закрыліся.

Супрацоўніца рэспубліканскага цэнтра прафілактыкі СНІДу **Алена Аземша** гаворыць, што ў нашым рэгіёне колькасць інфіцыраваных пакуль не павялічылася – у Маладзечне іх двое.

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*



ЖЫЦЦЁ НАШАЕ

# Як ратуюць самазабойцаў



*Загадчык аддзялення рэанімацыі маладзечанскай гарбальніцы Уладзімір Гушча,*
ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

***МАЛАДЗЕЧНА. На мінулым тыдні "паралізавала" аддзяленне рэанімацыі мясцовай гарбальніцы. Разлічанае на 9 ложкаў, заўсёды запоўненае, яно прыняло амаль што запар пяць пацыентаў. Усе з мікрараёна "Лясныя", з адной застольнай кампаніі. Дастаўленыя не былі ў прытомнасці, таму не змаглі сказаць, што пілі і ў якіх колькасцях.***

Урачы "хуткай" здагадаліся прыхапіць са стала бутэльку з–пад самагонкі. Таксікалагічны аналіз у Мінску паказаў: разам з метылавым, этылавым спіртам мужыкі ўжывалі чатыроххлорысты вуглярод (ім карыстаюцца як растваральнікам), пяць найменняў медпрэпаратаў (сярод іх анальгін, ізалептын).

Урач рэанімацыі **Пётр Шугала**, які прымаў гэтых хворых, лічыць, што ўчынак выпівох можна параўнаць са шкодніцтвам. Сапраўды, у аддзяленнях райбальніцы з–за іх перанеслі планавыя аперацыі, а адно рэанімацыйнае ложка–месца ў суткі каштуе за мільён (з улікам толькі кошту медпрэпаратаў). Такі кантынгент мусіць плаціць за лячэнне з асабістай кішэні. Медвыцвярэзнік падбярэ п'янага зімой – той плаціць. Медыкі выратуюць жыццё – плаціць дзяржава.

З пяці атручаных адзін памер ужо, яшчэ адзін пераведзены ў райбальніцу, трое застаюцца ў рэанімацыі.

– Выпілі "па 150", – успамінаюць яны.

Аднак у проблісках прытомнасці атручаныя большай часткай паводзяць сябе вельмі эмацыянальна. Іх выратоўваюць і адначасова пазбаўляюць алкагольнай залежнасці. У ліку дастаўленых – бацька (якраз ён і памер) разам з сынам.

– Калісьці ў інтэрнаце за заводам парашковай металургіі працавала наркалагічнае аддзяленне, – гаворыць загадчык аддзялення рэанімацыі **Уладзімір Гушча**, – выходзіць, што ліквідавалі яго ва ўрон гараджанам.

Такога масавага атручвання сурагатам медыкі не памятаюць. Гады чатыры таму ў рэанімацыю прывезлі два дзесяткі кітайцаў. Дзесьці ў раёне яны працавалі на цыбулі і пачаставаліся нашымі грыбамі. Кітайцаў тады выратавалі.

Выпадак медыкі ўспамінаюць з гумарам. Сказаць азіяты па–беларуску маглі толькі "дзякуй" і "Беларусь". Для зручнасці кітайцаў пазначылі фарбай: №1, №2... Спачатку і паперы на іх так па нумарах запаўнялі.

Нашыя айчынныя атручаныя алкаголікі чымсьці нагадваюць кітайцаў. Вось толькі акрамя адмоўных эмоцый, у медыкаў з рэанімацыі больш ніякіх пачуццяў не выклікаюць.

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*

САНЭПІД ІНФАРМУЕ

## Грып прыйшоў

МАЛАДЗЕЧНА. У першы тыдзень лютага вызначыўся рост захворваемасці вострымі рэспіраторнымі інфекцыямі і грыпам у Маладзечне. Калі за мінулы тыдзень зарэгістравана 1050 выпадкаў гэтых інфекцый, то за першыя два дні месяца зарэгістравана 683 выпадкі захворванняў, у т. л., 156 выпадкаў грыпу (пры сярэднім парогавым узроўні за тыдзень каля 700 выпадкаў).

Пры вірусалагічным даследаванні ад хворых ВРЗ у горадзе вызначаныя вірусы грыпу тыпу А і В. Частка насельніцтва змагла атрымаць прафілактычныя прышчэпкі супраць гэтых тыпаў вірусу ў паліклініках. Эпідэмічны пад'ём захворваемасці грыпам і ВРЗ можа прывесці ў сярэдзіне месяца да эпідэміі (неравышэння парогавага ўзроўню ў 4 разы).

Таму паклапаціцеся пра сваё здароўе наперад. У якасці прафілактычных сродкаў рэкамендуем ужываць прэпаратаў рэмантадзіну і антыгрыпіну, якія можна набыць у аптэках. Не забывайцеся і на паўнацэннае, багатае вітамінамі харчаванне, да якога адносяцца не толькі цытрусавыя, але і адвары шыпшыны, цёртыя чорныя парэчкі, журавіны, квашаная капуста, цыбуля і часнок.

У асноўным, грып небяспечны сваімі ўскладненнямі, таму пры з'яўленні першых прызнакаў захворвання (раптоўнае павышэнне тэмпературы, дрыжыкі, пяршэнне ў горле, галаўны боль і г. д.) неабходна, па магчымасці, ізаляваць хворага ад навакольных і выклікаць урача на дом. У далейшым захоўвайце прадпісанні ўрача і пасцельны рэжым.

Пытанне прыпынення работы школ будзе вырашацца па прадстаўленні дырэктараў, у выпадку парушэння навучальнага працэсу з–за адсутнасці па хваробе да 40% настаўнікаў і вучняў.

*Міхаіл ГРАБОЎСКІ, нам. галоўнага ўрача Маладзечанскага РЦГіЭ.*

ЭКСПРЭС–АПЫТАННЕ АШМЯНЦАЎ

# Што трэба, каб Ашмяны папрыгажэлі?



*Алена Яцкевіч, аб'яднанне "Грамадзянскі форум":*

– Падняць культуру ў людзей, прыбраць вуліцы і зрабіць асвятленне на іх, разбурыць старыя пабудовы, а на іх месцы пабудаваць сучасныя. Для дзяцей неабходныя пляцоўкі, і яшчэ трэба аднавіць танцпляцоўку.



*Алена Явідовіч, гадзіннікавы майстар:*

– Трэба, каб мясцовыя ўлады больш бюджэтных сродкаў накіроўвалі на добраўпарадкаванне горада. А то заўсёды ў іх грошай на гэтую справу не хапае.



*Алег Багумінскі, студэнт:*

– Адрамантаваць фасады будынкаў, зрабіць тратуарныя дарожкі. І яшчэ на кожнай вуліцы на зямлі, што пустуе, насадзіць кветак, каб радавалі вока жыхароў і гасцей горада.



*Аляксандр Міхалёнак, беспрацоўны:*

– Неабходна, каб людзі самі глядзелі за чысцінёй і парадкам на кожнай вуліцы, у кожным доме.



*Тамара, выкладчык:*

– Проста любіць свой горад. І, напэўна, патрэбны сапраўдны гаспадар.

ФОТААПЫТАННЕ МАР'ЯНА ВЯНГРОЎСКАГА.

СЕНТАР СПОРТУ

*Міні-футбол*

# Люты: час гуляць у зале

МАЛАДЗЕЧНА. Прайшоў занальны турнір першынства вобласці сярод хлопцаў 1986 г. н. Перамагла каманда мясцовай ДЮСШ (трэнер - **Сяргей Карыцька**) і атрымала права ўдзельнічаць у фінальных спаборніцтвах, што пройдуць 12-14 лютага таксама ў Маладзечне.

| | *Каманды* | *Ачкі* |
|---|---|---|
| 1. | ДЮСШ (Маладзечна) | 10 |
| 2. | "Камунальнік" (Вілейка) | 9 |
| 3. | Заслаўе (Мінскі раён) | 6 |
| 4. | ДЮСШ (Валожын) | 4 |
| 5. | Чысць (Маладз. раён) | 0 |

Адзіны нічыйны лік зафіксаваны ў сустрэчы маладзечанцаў і валожынцаў (4:4). А двое мацнейшых паміж сабою згулялі яшчэ ў стартавым туры. Вілейчане вялі ў ліку на працягу ўсяго матча, але гаспадары здолелі выйграць 6:5. За чысцінцаў і заслаўчанаў выступала шмат хлопцаў на год меншых па ўзросце. Прычым, прыкладна палова першых са школы "Дыфора", дзе ўвесь час трэніруюцца толькі ў зальным футболе.

Свае бамбардзірскія якасці найлепш праявілі **Аляксей Пасынкаў** - 13 галоў, **Аляксандр Лоўчы** (абодва - Вілейка) і **Міхаіл Мартынаў** (Заслаўе) - па 12, **Алег Рыжанкоў** (Мал. р–н) - 9, **Дзмітрый Касцюк** (капітан Маладзечна) - 7.

БАРЫСАЎ. Тут праходзіў "фінал" дарослага Кубка Мінскай вобласці, на якім наш рэгіён, успомнім, атрымала права прадстаўляць каманда старэйшага ўзросту з маладзечанскай ДЮСШ (трэнер - **Андрэй Найдзіч**).

Спачатку было паражэнне ад футбалістаў Мар'інай Горкі 1:3, потым прайгралі 1:7 барысаўскім "Медпрэпаратам", якія і сталі ўладальнікамі Кубка. У наступных трох сустрэчах каманда гуляла лепш, праўда, не зусім паспяхова ў сэнсе вынікаў. 1:2 з барысаўскім ДЮСШ, 7:1 (разгромны рэванш) супраць Заслаўя і 4:5 ад Нясвіжа. Занялі пятае месца.

Сярод нашых гульцоў выдзяляліся **Аляксей Антановіч, Дзяніс Смірноў** і, асабліва, варатар **Аляксандр Мароз**.

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

*Фан-ліга*

# Па 5:1 – і хварэем далей

У суботу, як і планавалася, прайшлі матчы 1/8 фінала. А вось чвэрцьфіналы перанеслі на чацвер, 4 лютага. Паведаміць іх вынікі мы ўжо не паспяваем. Так што ў наступным нумары чытайце справаздачу пра апошнія стадыі плэй-оф, бо паўфіналы і фінал запланаваныя на суботу і нядзелю.

Дарэчы, у прамым эфіры, у 16.00 БТ будзе паказваць другі тайм вырашальнай сустрэчы. У нашых землякоў ёсць неблагія шансы там згуляць.

**Металург-ВСОШ-21 5:1 (асноўны час 1:1)**

Галы: Янель-4, Макей.

Пад даволі дзіўнай абрэвіятурай хаваецца вышэйшая школа афіцэрскага саставу. І адзін з яе прадстаўнікоў здолеў аднавіць лік, які быў адкрыты **Дзмітрыем Янелем** пасля выдатнага выканання "штрафнога". Такім чынам, традыцыйныя два таймы па 20 хвілін чыстага часу не вызначылі пераможцу і давялося гуляць яшчэ два дадатковыя па 5 хвілін. Пераломным момантам стаў добры сольны праход **Аляксандра Макея**, які завяршыўся галявым ударам практычна з нулявога вугла. У далейшым варатар саперніка стаў шмат дзейнічаць у полі, дапамагаць партнёрам, што нашы (а канкрэтна – Янель) выкарысталі ажно тры разы.



*Што зробіш – Дзмітрый Янель забівае, таму другі тыдзень ён у цэнтры ўвагі нашага фотакарэспандэнта.*

ФОТА СЯРГЕЯ КАПЫЛОВА.

У інтэрв'ю "РГ" тыдзень таму гэты футбаліст не сказаў, якая прычына можа перашкодзіць яму прыняць удзел у матчы. Аказалася, вяселле, што прайшло ў пятніцу. Аднак падвесці сяброў ён не змог і на наступны дзень на вачах у жонкі і сваякоў прадэманстраваў, што шлюбна–вясельныя мерапрыемствы на майстэрства аніяк не паўплывалі.

**Вілія-ЗЛМК 5:1**

Галы: Пачанкоў, Галубко, Капцюг, Кабельскі, Губіч; Шыян.

Аўтары галоў "Віліі" пададзеныя ў тым парадку, як яны і вызначаліся. Ход гульні складваўся наступным чынам. Першы тайм: 2:0, 2:1. Як расказаў **Уладзімір Галубко**, каманда упэўнена кантралявала ход падзей. А напрыканцы матча стала відавочнай лепшая фізічная падрыхтоўка будучых пераможцаў, якія правялі яшчэ тры галы.

Капітан завадчанаў **Ігар Шыян** падзяліўся сваімі думкамі пра турнір, які прыйшлося завяршыць раней, чым хацелася б:

- Адназначна, вынік няўдалы. Можна было выступіць лепш. Не гуляў у апошніх матчах **Мікалай Абрамовіч**, а з ім маглі б перамагчы "Вілію". Так, набылі пэўны досвед. Пастараемся выкарыстаць яго праз год у наступным розыгрышы. У бліжэйшых планах "зона" чэмпіянату вобласці ў Маладзечне 12-14 лютага, куды можна заяўляцца двум камандам ад горада ў адрозненне ад ужо прайшоўшага кубкавага турніру, дзе мог удзельнічаць толькі адзін прадстаўнік, і гэтае права выкарыстала ДЮСШ.

**Нашы бамбардзіры**: Янель -15 галоў (лепшы паказчык на турніры), Макей - 10, Галубко - 9, Губіч - 7, Кабельскі і Карыцька (В) - па 6.

Прапануем чытачам фінальную сетку фан-лігі.

| 1/4 | 1/2 | Фінал | 1/2 | 1/4 |
|---|---|---|---|---|
| Металург-Каджыя | | | | Вілія-Хемікс |
| Валента-Рэал | | | | МДЛУ-Пегас |

Як відаць, беразінцам дайсці да фіналу будзе больш складана, "Каджыя" і "Валента"- пераможцы груп, ды і "Рэал" далёка не падарунак, фармклуб мінскага "Тарпеда-МАЗа" у вялікім футболе. З усімі траімі хтосьці з нашых сустракаўся, і вось з якімі вынікамі. ЗЛМК-Каджыя 1:5, Металург-Валента 3:5, Вілія-Рэал 5:4. Што тычыцца другой паловы сеткі, дык там адзін пераможца групы - "Хемікс", а ЗЛМК выйгравала ў МДЛУ 1:0.

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

# Работа над памылкамі

У мінулым нумары «РГ» на гэтым месцы быў змешчаны рэпертуар Мінскага абл-драмтэатра **на люты**. Памылкова ўказана, што гэта – спектаклі на студзень.

Просім прабачэння ў работнікаў тэатра і гледачоў. Карыстайцеся надрукаваным рэпертуарам і прыходзьце на спектаклі – яны вартыя вашай увагі.

ДАПАМАЖЫ САБЕ САМ

# Што рабіць з чэкамі?

***Пытанне гэтае далёка не рытарычнае; многія жыхары рэгіёна хацелі б пачуць параду спецыяліста. Рэдакцыя «РГ» звярнулася да старшыні камітэта грамадскага самакіравання сталічнага мікрараёна Уручча Мікалая БУСНЮКА.***

– Вашае пытанне можна, напэўна, сфармуляваць так: як ажыццяўляць чэкавую прыватызацыю ў народнай дзяржаве, каб яна была была праведзеная ў інтарэсах народа, а не ў інтарэсах тых, хто яе праводзіць? Рух за тэрытарыяльнае самакіраванне мае сваю канцэпцыю па гэтай праблеме. У яе будзе шмат праціўнікаў. Гэта тыя, хто знаходзіцца пры ўладзе, і тыя, хто рвецца да яе. Паміж першымі і другімі застаецца народ, у інтарэсах якога і прапануецца наша канцэпцыя. У выпадку яе здзяйснення вынікі будуць незваротныя, ужо ніхто не зможа асядлаць народ ізноў.

1. Ацэньваецца ў чэках не 20 ці 49, а ўсе 100% дзяржаўнай уласнасці.
2. Размяркоўваецца яна не між асобнымі грамадзянамі, а між тэрыторыямі (мясцовымі Саветамі дэпутатаў).
3. Мясцовыя Саветы кіруюць чэкамі: адкрываюць рахункі для сваіх жыхароў, на якія пералічваюцца дывідэнды. Любы жыхар мае права забраць свае чэкі і выкарыстаць іх паводле свайго меркавання.

**- Нескладана. І што гэта дае на практыцы?**

Узрастае ўплыў мясцовай прадстаўнічай улады. У яе з'яўляецца ўласнасць. Шматразова ўзрастае цікавасць выбаршчыкаў да мясцовых Саветаў. Як акцыянеры, яны цяпер могуць рэальна ўплываць на кіраванне сваімі чэкамі. І пры абранні дэпутатаў яны будуць выбіраць праўленне па кіраванні сваімі чэкамі. У выбаршчыкаў з'яўляецца эканамічны стымул удзельнічаць у галасаванні, а значыць, узрасце і іх актыўнасць. Немалаважным, а можа быць, і найбольш галоўным з'явіцца аспект сацыяльнай справядлівасці, абароненасці.

**– Цяпер людзі зведваюць неўладкаванасць з чэкамі – усемагчымыя часавыя рамкі, правілы, схемы; некаторыя сцвярджаюць, што чэкі ўзялі дарэмна, яны прападаюць.**

– Па–першае, ні ў каго ні ў якія тэрміны чэкі не прападаюць. Тэрміны выняткі іх з Савета неабмежаваныя. Штогод робіцца пераразлік раённай уласнасці між акцыянерамі, што засталіся. Гэта ж тычыцца і нанова створанай уласнасці.

Па–другое, змяншаецца велічыня хібнасці пры размеркаванні чэкаў між асобнымі грамадзянамі. У Беларусі за пункт адліку ўзятая дата 1 студзеня 1992 года – той, хто нарадзіўся з 1992 года, на чэкі права не мае, як і той, хто памер да 1992 года. Паміж асобамі аднаго ўзросту (як немаўлятамі, так і старымі) розніца ў адзін дзень, але адныя маюць права на чэкі, а іншыя – не.

Па–трэцяе, знікае "прымусоўка". Чаму інжынер, урач, настаўнік, пракурор, ваенны, пенсіянер, інвалід абавязаныя рабіцца прадпрымальнікамі, кіраваць акцыянернымі таварыствамі, сачыць за курсам на фондавай біржы і г. д.? Кожны з іх абраў сабе любімую прафесію, навучыўся ёй, зарабіў сацыяльныя льготы і хоча, каб дзяржава пра яго паклапацілася. Калі чэкамі будзе кіраваць мясцовы Савет дэпутатаў, такое парушэнне правоў ліквідуецца.

*Падрыхтаваў*
*Сямён ПАСТУШЭНКА.*

РЭКЛАМА



КУЛЬТУРА

# На Украіне

РОЎНА. Тут прайшоў міжнародны фальклорны фестываль "Каляда".

Удзел бралі калектывы Беларусі, Украіны, Югаславіі, Расіі. Нашу краіну прадстаўлялі хор "Ватра" дыяспары ўкраінцаў у Беларусі (кіраўнік **Марына Яцкевіч**) і студэнцкі фальклорны ансамбль "Граміца" беларускага ўніверсітэта культуры (кіраўнік **Уладзімір Зінкевіч**), які атрымаў галоўны прыз.

Усіх удзельнікаў фестывалю ўзнагародзілі ганаровымі дыпломамі.

*Надзея ЛІСАВА.*

«РГ»–СТАТЫСТЫКА

# Кінааматараў большае

МЯДЗЕЛ. 183200 – менавіта столькі гледачоў наведалі летась кінасеансы на Мядзельшчыне.

Гэта ў 1,6 раза больш, чым у 1997 годзе.

Найвялікшую колькасць гледачоў – за 15 тысяч – сабраў знакаміты "Тытанік".

*Алесь ГЛУБЛЯ.*

АДУКАЦЫЯ

# Ад Кобса Клауса

ВАЛОЖЫН. 3260 марак перадаў аддзелу адукацыі для дзяцей–сірот рэферэнт Хрысціянскага Саюза маладых людзей Германіі "Сетка свету" **Клаус Кобс.**

Перад гэтым госць пабываў у школах раёна, азнаёміўся з дзейнасцю мясцовага аддзялення "Чырвонага Крыжа".

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

ШКОЛА

# Непрадбачаныя выдаткі на гімназію – да 2001 года

СМАРГОНЬ. Райвыканком зацвердзіў праграму развіцця гімназіі №4 на 1999–2001 гады. 4,8 мільярда рублёў на фінансаванне праграмы будуць выдзелены з фонду непрадбачаных расходаў раённага бюджэту.

*Павел МАКЛЮК.*

МЕДЫЦЫНА

# Лепш не хварэць

ВІЛЕЙКА. Штотыдзень аптэкі папаўняюцца лекамі, недахопу не адчуваецца. Праўда, не кожнаму па кішэні іх купіць.

Напрыклад, 10 таблетак "Баралгіну" каштуюць 180 тысяч, а прэпарат L–Цiраксін (гармон шчытападобнай залозы) каштуе за 1 мільён 300 тысяч.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

"РГ"–СТАТЫСТЫКА

# Набудавалі

ВІЛЕЙКА. За год тут уведзена ў эксплуатацыю 13 дамоў жыллёва–будаўнічых кааператываў (агульнай плошчай 28800 кв. м), 23 індывідуальныя жылыя дамы.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

АШМЯНСКІЯ НАВІНЫ

# Самыя–самыя атрымаюць стыпендыі

У ПТВ–192 з'явілася новаўвядзенне: тыя з навучэнцаў, хто праявіць сябе ў вучобе ці тэхнічнай творчасці, маюць усе шанцы атрымліваць стыпендыю ў памеры адной "мінімалкі".

Навучэнка групы гаспадынь сядзібы **Наташа Пазаўць** такую стыпендыю атрымлівае ўжо ад пачатку навучальнага года.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

# Грып не страшны. З сэрцам напружанне

У цяперашняе надвор'е, калі маразы змяняюцца рэзкім пацяпленнем, захварэць няцяжка. Пасля прыёму ў кабінеце ўрача хворы з кіпай рэцэптаў рушыць у аптэку. Здараецца, што неабходнае там проста адсутнічае.

– Неабходныя лекі, патрэбныя хвораму на грып, мы назапасілі, – гаворыць загадчыца цэнтральнай аптэкі **Эва Адамовіч**. – Праўда, падчас жнівеньскага крызісу ў Расіі было складана працаваць з фармацэўтычнымі фірмамі, у якіх папросту адсутнічалі лекі. Таму, калі з аспірынам, антыгрыпакапсам, ампіцылінам і іншымі праблем няма, то з лекамі ад сэрца пакуль застаецца напружанне. Іх у дастатковай колькасці ў нас няма.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

ГАРАСКОП 8 – 14 ЛЮТАГА

**АВЕН (21.03–20.04)**
Добрыя дні 9–11. Сачы за сваёй хатняй гаспадаркай.

**ЦЯЛЕЦ (21.04–21.05)**
Добры дзень 10, важны – 13. Асобы з–пад знакаў Блізнятаў і Стральца адыграюць пэўную ролю ў тваім жыцці.

**БЛІЗНЯТЫ (22.05–21.06)**
Добрыя дні 8–11. Перад табой будзе стаяць нейкі выбар.

**РАК (22.06–23.07)**
Кепскі дзень 11. У цябе з'явіцца сакрэт ад навакольных.

**ЛЕЎ (24.07–23.08)**
Важны дзень 12. Памятай: жыццё непрадказальнае!

**ДЗЕВА (24.08–23.09)**
Кепскія дні 8, 9. Усё будзе пад тваім кантролем.

**ШАЛІ (24.09–23.10)**
Важны дзень 9. Цябе чакаюць кардынальныя змены.

**СКАРПІЁН (24.10–22.11)**
Кепскія дні 11–14. Крыху адпачні, і ўсё стане на свае месцы.

**СТРАЛЕЦ (23.11–21.12)**
Добрыя дні 7–9, важны 14. Змяні сваё ўяўленне пра некаторых людзей.

**КАЗЯРОГ (22.12–20.01)**
Кепскі дзень 11. Будзеш упэўнена рухацца да пастаўленай мэты.

**ВАДАЛЕЙ (21.01–19.02)**
Добрыя дні 8–9, важны – 13. Працягвай сваю плённую працу, не звяртаючы ўвагі на магчымыя цяжкасці.

**РЫБЫ (20.02–20.03)**
Добры дзень 10. Стан твайго здароўя нармалізуецца.

